# АБ ПРАГНОЗЕ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ Г.МІНСКА НА 1995 ГОД

## ДАКЛАД

## НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ МІНГАРВЫКАНКАМА ПЯТРА ГЕОРГІЕВІЧА НІКІЦЕНКІ НА СЕСІІ МІНСКАГА ГАРАДСКОГА САВЕТА

**Паважаныя дэпутаты!**

Пачнём нашу гаворку з аналізу становішча спраў у эканоміцы. 1994 год сведчыць аб складаным становішчы ў гарадской гаспадарцы.

Негатыўныя працэсы агульнаэканамічнага характару не маглі не адлюстравацца на эканамічнай сітуацыі горада. На працягу года гарадская гаспадарка развівалася пад уздзеяннем высокіх тэмпаў інфляцыі, скарачэння вытворчасці, пастаяннa растучых цэн на сыравіну, энергарэсурсы, а таксама вострага недахопу фінансавых прыбыткаў для задавальнення сацыяльных патрэб жыхароў сталіцы. Тым не менш, рэалізацыя Праграмы неадкладных мер па выхаду эканомікі Рэспублікі Беларусь з крызісу, канкрэтныя крокі, якія рабіў выканкам, дазволілі захаваць магчымасць кіраваць эканамічнымі працэсамі, дабіцца некаторай стабілізацыі ў асобных галінах гарадской гаспадаркі.

Да канца года вызначылася тэндэнцыя скарачэння спаду вытворчасці. Калі ў II квартале аб'ём прамысловай вытворчасці знізіўся на 28,7% у параўнанні з адпаведным перыядам 1993 года, то ў IV квартале забяспечаны рост на 5,3%. Па выніках за год агульны спад прамысловай вытворчасці склаў 15,4%, а прадпрыемствы Кастрычніцкага, Першамайскага, Савецкага і Фрунзенскага раёнаў па аб'ёму прадукцыі перавысілі ўзровень папярэдняга года (адпаведна на 18,9%, 9,6%, 3,8%, 0,6%).

Аналагічная тэндэнцыя склалася і па аб'ёмах вытворчасці тавараў народнага спажывання, якія ў IV квартале склалі 17,4% супраць 31,7% у першым квартале 1994 г. За год аб'ём выпуску спажывецкіх тавараў склаў 84,7% да ўзроўню 1993 г. У выніку паглыблення працэсаў канверсіі абаронных прадпрыемстваў на падставе маркетынгавых даследаванняў і наладжвання выпуску прадукцыі, якая карыстаецца ўстойлівым попытам на спажывецкім рынку, у мінулым годзе асвоена каля 200 новых відаў і мадэляў тавараў, паскорыліся тэмпы асваення новай экспартназдольнай прадукцыі.

Неабходна адзначыць вось яшчэ што. За кожным выпушчаным аўтамабілем, за кожнай парай абутку стаяць людзі. І тое, што прамысловасць горада ўтрымалася ад абвалу, дало магчымасць не дапусціць масавага беспрацоўя. Сёння ў Мінску налічваецца 9,6 тыс. афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных пры 8,4 тыс. вакансій. Практычна амаль на кожнага беспрацоўнага — адно вакантнае месца. Аднак складанасць у тым, што 85% месцаў патрабуецца для рабочых, а тры чвэрці беспрацоўных—інжынерна-тэхнічныя работнікі і служачыя.

Няпростае становішча склалася ў будаўнічым комплексе горада.

У мінулым годзе ў сувязі з нестабільнасцю ва ўсёй народнай гаспадарцы рэспублікі мелі месца выпадкі спаду аб'ёмаў капітальнага будаўніцтва. Усяго за 1994 год па г.Мінску за кошт усіх крыніц фінансавання асвоена ў супастаўных цэнах 81,3% капітальных укладанняў да ўзроўню 1993 года.

Разам з тым намаганнямі прадпрыемстваў, арганізацый, службаў гарвыканкама забяспечаны ўвод 530,4 тыс. кв. м агульнай жылой плошчы, дома-інтэрната для ветэранаў на 101 месца па вул. Герасіменкі агульнай плошчай 12910 кв.м, 2-х школ і 2 прыбудоў да школ на 3179 месцаў, 7 дзіцячых садкоў на 2310 месцаў, прафтэхвучылішчаў на 720 месцаў, 3 паліклінікі на 2888 наведванняў у змену, магазінаў рознага прызначэння агульнай гандлёвай плошчай 2747 кв.м, некаторых іншых аб'ектаў сацыяльнага і камунальнага прызначэння. У прыватнасці, праведзены рэканструкцыя і рамонт каля 1 млн. кв.м гарадскіх дарог і плошчаў, адрамантавана да зімы 25 км цеплатрас, асвоена 5,5 млрд. рублёў на пашырэнне кацельных Шабаны, Заходняя, блок ЦЭЦ-4, праведзены капітальны рамонт 260 тыс. кв. жылля.

Для захавання такіх тэмпаў будаўніцтва жылля і аб'ектаў сацыяльнай сферы выканкамам праводзілася работа па змяненню галіновай структуры капітальных укладанняў. Калі ў 1990 годзе на аб'екты невытворчага будаўніцтва накіроўвалася 32% ад агульных аб'ёмаў капітальных укладанняў у горадзе, то ў 1994 годзе яны склалі 58,6%. Акрамя таго, вызначыліся прыярытэтныя галіны, на якія ў першую чаргу накіроўваліся бюджэтныя сродкі, прыцягваліся побач з дзяржаўнымі будаўнічымі арганізацыямі на рынак будаўнічых паслуг прыватныя і камерцыйныя будаўнічыя арганізацыі, іншыя інвестары.

Апраўданым з'яўляецца рашэнне выканкама аб прадастаўленні магчымасці гараджанам будаваць жыллё за кошт асабістых сродкаў. Гэта дазволіла, з аднаго боку, палепшыць жыллёвыя ўмовы часткі насельніцтва, з другога — захаваць будаўнічы комплекс горада, зменшыць ільготную чаргу, стрымаць цэны на рынку жылля.

Аб Мінску даўно склалася ўражанне, як аб горадзе чыстым, добраўпарадкаваным і прыгожым, з высокай культурай людзей. Падтрымаць такі ўзровень ва ўмовах дэфіцыту гарадскога бюджэту з'яўлялася задачай нялёгкай, але прынцыпова важнай. Па ініцыятыве выканкама і з дапамогай прадпрыемстваў і арганізацый удалося сканцэнтраваць неабходныя сродкі на добраўпарадкаванне тэрыторый і рамонт вуліц. У выніку — на працягу мінулага года былі адрамантаваны 72 вуліцы горада плошчай звыш 1 млн. кв. метраў, выкананы іншыя работы, якія дазволілі не дапусціць пагаршэння знешняга выгляду сталіцы рэспублікі.

Аднак праблем у развіцці гарадской гаспадаркі яшчэ многа. Іх рашэнне ў значнай ступені залежыць ад правядзення рыначных рэформаў у эканоміцы, фарміравання эфектыўнай рыначнай структуры, ажыццяўлення комплексу мер у эканамічнай, сацыяльнай і нарматыўна-прававой сферах.

У сённяшніх эканамічных умовах усё больш значнае месца стала займаць дзейнасць суб'ектаў недзяржаўных формаў уласнасці. Па стану на 1 студзеня бягучага года ў горадзе зарэгістравана больш 71 тыс. суб'ектаў гаспадарання, з іх юрыдычных асоб — 31,2 тыс. і больш 40 тысяч прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы. З ліку ж зарэгістраваных юрыдычных асоб 76% заснаваны на аснове калектыўнай формы ўласнасці, 17,6% — на уласнай і 6,4% — на дзяржаўнай. Найбольшая колькасць прадпрымальніцкіх структур малога і сярэдняга бізнесу занята ў гандлі і грамадскім харчаванні, прамысловасці, будаўніцтве, навуцы і навуковым абслугоўванні.

Дастаткова шырокі спектр дзейнасці сумесных і замежных прадпрыемстваў: ад выпуску навукаёмістай прадукцыі да вытворчасці тавараў народнага спажывання. Разам з тым, гэтыя працэсы ў многім стрымліваюцца недасканаласцю заканадаўчай базы, якая рэгулюе пытанні развіцця знешняга гандлю, валютна-фінансавай дзейнасці, замежных інвестыцый, эканамічнай нестабільнасцю, інфляцыяй. Аб гэтым сведчаць мінімальныя ўклады ва ўстаўныя фонды сумесных і замежных прадпрыемстваў, слабая актыўнасць іх удзельнікаў у стварэнні ўласных вытворчых баз.

Працягваецца працэс фарміравання рыначнага гаспадарчага механізму на аснове раздзяржаўлення і прыватызацыі. У цяперашні час прыватызавана, пачынаючы з 1991 года, 186 аб'ектаў камунальнай уласнасці. Неабходна адзначыць, што іх прыватызацыя была схільна да рэзкіх ваганняў: 1991 г. — 1 прадпрыемства, 1992 г. — 56, 1993 г. — 8, 1994 г. — 121, што было выклікана адсутнасцю пэўнай заканадаўчай базы.

Хачу спыніцца на пытанні выканання наказаў выбаршчыкаў. Скажу, што за 1994 год выканана 8 наказаў. У прыватнасці, уведзены ў эксплуатацыю цэнтр «Стаматалогія» ў м-не Чыжоўка, пабудаваны магазін «Культтавары» ў м-не Шабаны, зроблены капітальны рамонт дамоў і выкананы шэраг іншых мерапрыемстваў. Пабудаваны ў 1991-92 гг. два міжшкольныя басейны ў м-не Уручча-3, Кунцаўшчына-3.

Пры гэтым, калі ў 1992 годзе функцыянавала 45 плавальных басейнаў і 72 міні-басейны пры дзіцячых дашкольных установах, то ў цяперашні час іх сетка пашырылася адпаведна да 47 і 104 адзінак, у тым ліку ў 1995 годзе прадугледжвалася заканчэнне будаўніцтва басейна ў Малінаўцы-4, пускавога комплексу ФАК па вул.Сталетава, басейна АП «Мінскрэмбуд» па пер.Дамашэўскім, 4-х міні-басейнаў у дзіцячых садках. Я прыпыніўся толькі на асобных пытаннях эканамічнага развіцця горада за мінулы год. Аб многіх праблемах і шляхах іх вырашэння гаворка пойдзе далей. Але хачу сказаць, што галоўнае — паляпшэнне жыцця людзей — пакуль не дасягнута.

Меры, што прымаюцца выканкамам па стабілізацыі эканамічнага становішча горада ва ўмовах спаду вытворчасці, пастаяннага росту цэн і іншых фактараў, не змаглі кампенсаваць рэальнае зніжэнне прыбыткаў насельніцтва, нягледзячы на неаднаразовае павышэнне ўрадам на працягу года мінімальнай заработнай платы. Па даных статыстыкі, у 1994 годзе рэальная заработная плата знізілася на 21,6%.

Сацыяльная неўладкаванасць гараджан, нестабільнасць эканомікі ставяць перад выканкамам задачу прыняцця мер, якія змогуць спыніць спад і стварыць умовы для выхаду з крызісу.

У гэтых умовах сумеснымі распрацоўкамі ўпраўленняў, аддзелаў, іншых структурных падраздзяленняў гарвыканкама, райвыканкамаў, прадпрыемстваў і арганізацый горада падрыхтаваны прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця горада Мінска на 1995 год.

У аснову дакумента пакладзены Праграма неадкладных мер па выхаду эканомікі Рэспублікі Беларусь з крызісу, Канцэпцыя сацыяльна-эканамічнага развіцця г.Мінска, аналіз эканамічнай сітуацыі і тэндэнцыі развіцця гарадской гаспадаркі на працягу апошніх некалькіх гадоў, асабліва 1994 г., улік асноўных макраэканамічных параметраў развіцця рэспублікі, якія ўказваюць на магчымасць некалькі стабілізаваць у 1995 годзе сацыяльна-эканамічнае становішча горада.

Аналіз паказвае, што ва ўмовах аднабаковай залежнасці ад расійскіх сыравінных рэсурсаў, нізкай канкурэнтаздольнасці выпускаемай прадукцыі, наяўнасці вялікай колькасці энерга- і матэрыялаёмістых вытворчасцей патрабуецца далейшая паскораная рэканструкцыя прамысловасці горада. Прагназіруецца развіццё прыярытэтных галін з навукаёмістай прадукцыяй: электронікі, радыёпрамысловасці, прыбора- і станкабудавання. На канверсійных прадпрыемствах будзе ажыццяўляцца паскоранае расшырэнне выпуску тавараў і паслуг, сістэм і тэхналогій грамадзянскага прызначэння.

Мяркуецца, што ў цэлым аб'ём вытворчасці захаваецца на ўзроўні, дасягнутым у 1994 годзе, у тым ліку і аб'ём выпуску тавараў народнага спажывання.

У сувязі са змяненнем попыту насельніцтва на розныя віды тавараў структурнай перабудовай вытворчасцей шэраг прадпрыемстваў горада мае намер значна абнавіць асартымент выпускаемых тавараў. Так, у фірме «Мілавіца» абнаўленне складзе 80%, акцыянерных таварыствах «Людміла» і «Мінскі фарфоравы завод» — каля 60%. Прапануюць насельніцтву новыя мадэлі сваёй прадукцыі такія прадпрыемствы, як акцыянернае таварыства «Беларускія шпалеры», вытворчае аб'яднанне «Гарызонт», мотавелазавод і іншыя.



Пашырыцца наменклатура тавараў вытворчасці канверсіруемых прадпрыемстваў. Прадугледжваецца далейшае захаванне прыярытэту навукаёмістых вытворчасцей.

Канешне, для Мінска жыццёва важным пытаннем з'яўляецца капітальнае будаўніцтва аб'ектаў гарадской гаспадаркі.

Пры распрацоўцы праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця па Мінскаму гарвыканкаму на 1995 год было пастаўлена за мэту забяспечыць максімальна магчымы ўзровень будаўніцтва, аб'ектаў сацыяльнай сферы і развіццё галін, якія вызначаюць нармальнае функцыянаванне гарадской гаспадаркі.

Аб'ёмы ўводу аб'ектаў гарадской гаспадаркі практычна адпавядаюць узроўню папярэдніх гадоў, калі фінансаванне будоўляў жыллёвага і сацыяльна-бытавога прызначэння ажыццяўлялася ў асноўным за кошт дзяржаўных крыніц. Улічваючы іх абмежаваныя магчымасці ва ўмовах карэнных змен у эканоміцы рэспублікі, для рэалізацыі пастаўленай мэты ў будучым годзе мяркуецца больш шырока прыцягнуць інвестыцыі прадпрыемстваў недзяржаўных формаў уласнасці і, у першую чаргу, камерцыйных структур, давёўшы іх узровень да 20-25% ад агульнага аб'ёму па гораду.

У цэлым, у адпаведнасці з праграмай, у 1995 годзе неабходна будзе асвоіць капітальныя ўкладанні ў аб'ёме 2,49 трыльёна рублёў, што ў супастаўных цэнах складае 141,0% да ўзроўню, дасягнутага ў 1994 годзе. У рэзерве крыніц фінансавання іх структура мяркуе выкарыстанне сродкаў: мясцовага бюджэту — 65,3%, прадпрыемстваў і арганізацый — 27,4%, жыллёвабудаўнічых кааператываў — 5,8%, рэспубліканскага бюджэту — 1,5%.

У 1995 годзе ў горадзе намечана пабудаваць 630 тыс. кв.м жылля; у тым ліку па ўпраўленню камунальнага будаўніцтва гарвыканкама — 512 тыс. кв.м і за кошт сродкаў іншых заказчыкаў — 110 тыс. кв.м. Асноўная забудова, як і ў мінулым годзе, будзе ажыццяўляцца ў Маскоўскім і Фрунзенскім раёнах.

Мяркуецца ўвесці ў эксплуатацыю 6 школ на 6839 месцаў і 4 дзіцячыя дашкольныя ўстановы на 1320 месцаў. Будаўніцтва гэтых аб'ектаў будзе весціся ў асноўным у новых мікрараёнах, забяспечваючы неабходны мінімум комплекснай забудовы.

У праграму будаўніцтва аб'ектаў аховы здароўя па гарвыканкаму ўключаны толькі аб'екты, будаўніцтва якіх пачата ў папярэднія гады. Усяго па гораду мяркуецца ўвесці 4 паліклінікі на 2660 месцаў.

Акрамя таго, будзе працягнута будаўніцтва 2-х АТС у м-нах Сухарава і Уручча, рэканструкцыя ЦУМа, намечана ўвесці блокі бытавога абслугоўвання па вул.Прытыцкага і па пр.ім. газеты «Праўда».

Неабходна сказаць, што амаль палавіна (47,5%) усіх капіталаўкладанняў па гарвыканкаму накіроўваецца на галіну «камунальнае будаўніцтва», за кошт якіх прадугледжваецца забяспечыць увод 2-х водазабораў «Бараўляны» і «Дражня» магутнасцю 37 тыс. куб.м у суткі, 10 км інжынерных сетак у Сухарава-6, 11,63 км тралейбусных ліній, будзе пракладзена 19,5 км газапровода да кацельных Шабаны і Паўночная, закончана будаўніцтва шэрагу камунальных баз. У гэтым годзе будзе ўведзена 2,92 км другой лініі метро ад ст.Фрунзенская да ст.Пушкіна і працягнецца яе будаўніцтва ў кірунку Трактарны — Аўтазавод.

На 1995 год намячаецца пачаць і працягнуць работу па 40 наказах выбаршчыкаў. Гэтае пытанне будзе разгледжана на бліжэйшым пасяджэнні гарвыканкама, пасля чаго вынесена на сесію гарсавета.

Неабходна сказаць, што на гэтыя мэты патрабуецца накіраваць у бягучым годзе значны аб'ём сродкаў з бюджэту, пры гэтым толькі на аб'екты капітальнага будаўніцтва неабходна больш як 135 млрд. рублёў.

Важны момант у развіцці гарадской гаспадаркі — рэсурснае забеспячэнне прадпрыемстваў і арганізацый, якое будзе суправаджацца адыходам манапольных паставак Міністэрства рэсурсаў і пераходам на прамыя дагаворы спажыўца і вытворцы з дапамогай пасрэдніцкай дзейнасці рыначных структур.

З мэтай нарошчвання аб'ёмаў вытворчасці і скарачэння невытворчых транспартных затрат працягнецца работа па развіццю магутнасцей мясцовай будаўнічай індустрыі. Пры 30% долевым удзеле гарвыканкама будуецца 5-я тэхналагічная лінія вытворчага аб'яднання «Граніт» магутнасцю 2 млрд. куб. метраў шчэбню ў год, што дазволіць у 2 разы скараціць кошт гэтага будаўнічага матэрыялу ў параўнанні з раней выкарыстоўваемым украінскім і забяспечыць патрэбы горада.

Працягнецца работа па рэалізацыі Праграмы неадкладных мер па выхаду эканомікі з крызісу. У прыватнасці, прадугледжваецца сумеснымі сіламі з суб'ектамі гаспадарання забяспечыць першачарговае накіраванне фінансавых сродкаў на аплату энерганосьбітаў, знізіць выкарыстанне цеплавой і электрычнай энергіі прадпрыемствамі — у І-м паўгоддзі 1995 года на 25% ад адпаведнага перыяду мінулага года.

Асаблівае значэнне для падтрымкі стабільнага функцыянавання гарадской гаспадаркі і недапушчэння падзення яе развіцця сёння мае фінансавае забеспячэнне. У наступным дакладзе будзе дэталёва асветлена гэтая праблема. Аднак адзначу, што пры дэфіцыце бюджэтных сродкаў горада важным момантам з'яўляецца іх эканомія і прыцягненне дадатковых грашовых рэсурсаў для фінансавання неадкладных патрэб горада. У прыватнасці, выканкамам прадугледжаны: перагляд праектна-каштарыснай дакументацыі аб'ектаў з мэтай падзешавіць кошт іх будаўніцтва, устаноўка прыбораў уліку і рэгулявання цеплавой энергіі, пашырэнне сферы аказання платных паслуг, адшуканне дадатковых фінансавых сродкаў для рамонту і ўпарадкавання гарадскіх дарог у мэтах падрыхтоўкі горада да святкавання 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, а таксама іншыя меры.

Адной з задач развіцця горада з'яўляецца паляпшэнне становішча на спажывецкім рынку. Улічваючы слабую пакупную здольнасць насельніцтва, змяненне структуры спажывання ў бок прадуктовых тавараў і абавязковых плацяжоў (паслугі гарадскога транспарту, жыллёва-камунальныя паслугі), мяркуецца, што аб'ём рознічнага таваразвароту застанецца на ўзроўні 1994 года. Пры гэтым у недзяржаўным сектары гандлю ён узрасце на 49,3%. У сувязі з тым, што ў апошнія гады ідзе хуткае змяненне структуры рознічнага гандлю, павялічыцца вага ў тавараабароце прадпрыемстваў недзяржаўнага сектара з 42,9% у 1993 годзе да 65,0% у 1995 годзе. Развіццё малога бізнесу і прадпрымальніцтва, правядзенне прыватызацыі і раздзяржаўлення будуць садзейнічаць насычэнню рынку таварамі і паслугамі, пашырэнню канкурэнцыі, стварэнню новых рабочых месцаў.

Згодна з прагнознымі ацэнкамі, чакаецца рост аб'ёму рэалізацыі паслуг насельніцтву ў супастаўных цэнах на 5%, у тым ліку аб'ёмы бытавых паслуг застануцца на ўзроўні мінулага года.

Будзе адбывацца далейшае развіццё сеткі ўстаноў сацыяльна-культурнай сферы, дзе працягнецца ўдасканаленне розных накірункаў дзейнасці, развіццё камерцыйных пачаткаў і прадастаўленне платных паслуг. Пры гэтым, ва ўмовах цяжкасцей з фінансавымі рэсурсамі прадугледжваецца фарміраванне і пашырэнне рынку паслуг, якія будуць прадастаўлены не толькі дзяржаўнымі, але і прыватнымі, і іншымі недзяржаўнымі арганізацыямі.

Асабліва важнае значэнне набываюць праблемы працаўладкавання і сацыяльнай абароны насельніцтва.

Каб не дапусціць масавага беспрацоўя, выканкамам прынята «Праграма садзейнічання занятасці і сацыяльнай абароны насельніцтва г.Мінска на 1995 год», якой прадугледжваецца ажыццяўленне комплексу мер па рашэнню асноўных задач: садзейнічанне занятасці грамадзян, прафарыентацыя і прафнавучанне незанятага насельніцтва, падтрымка прадпрымальніцкай дзейнасці і самазанятасці грамадзян, выяўленне і ўлік маламаёмных грамадзян і аказанне ім сацыяльнай дапамогі.

Прагназіруецца рост узроўню беспрацоўя да 2,3%, лік беспрацоўных, зарэгістраваных у службе занятасці, складзе 20,1 тыс. чалавек. Прадугледжваецца правядзенне актыўнай палітыкі занятасці, гэта значыць, колькасць працаўладкаваных, накіраваных на прафнавучанне і грамадскія работы, складзе звыш 50%.

Прадугледжаны комплекс мер па арганізацыі абароны малазабяспечаных грамадзян, асобных сем'яў, якія знаходзяцца за «лініяй беднасці», і далейшаму паляпшэнню іх абслугоўвання праз сетку спецыялізаваных магазінаў, цэнтры сацыяльнай дапамогі, пашырэнне сеткі ўрачэбных і фельчарскіх пунктаў, аддзяленняў у бальніцах па аказанню медыцынскай дапамогі для асоб пажылога ўзросту і інвалідам.

Тэмпы пераўтварэнняў і стабілізацыі ва ўсіх галінах эканомікі ў 1995 годзе ў многім будуць залежаць ад руху прыватызацыі і паляпшэння кіравання дзяржаўнай маёмасцю, фарміравання інфраструктуры рынку, антыманапольнага рэгулявання і падтрымкі прадпрымальніцтва.

Галоўнымі мэтамі прыватызацыі будуць: павышэнне эфектыўнасці эканомікі ў цэлым і дзейнасці асобных прадпрыемстваў; фарміраванне шырокага слоя прыватных уласнікаў; прыцягненне ў вытворчасць інвестыцый, у тым ліку замежных; завяршэнне выдачы прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць»; садзейнічанне ў рэалізацыі мерапрыемстваў па сацыяльнай абароне прыватных уласнікаў (акцыянераў).

У 1995 годзе прадугледжваецца шырэй выкарыстоўваць такія спосабы прыватызацыі як конкурсы і аўкцыёны. Прычым, на іх будуць выстаўляцца не толькі маёмасныя комплексы, а таксама і пакеты акцый за грошы або прыватызацыйныя чэкі «Маёмасць».

Прадугледжваецца далейшая рэалізацыя асноўных накірункаў развіцця прадпрымальніцкай і кірмашова-выставачнай дзейнасці.

Неабходна адзначыць, што намечаныя ў прагнозе паказчыкі на працягу года могуць карэкціравацца і ўдакладняцца, зыходзячы з канкрэтнай сітуацыі. Разам з тым, дасягненне асноўных параметраў, закладзеных у прагнозе сацыяльна-эканамічнага развіцця горада на 1995 год, у многім будзе залежаць ад мэтанакіраванай работы ўсіх структурных падраздзяленняў гарвыканкама, прадпрыемстваў і арганізацый, размешчаных на тэрыторыі горада, выпрацоўкі і прыняцця эфектыўных мер па правядзенню рэформаў у спалучэнні з дзяржаўным рэгуляваннем эканомікі.

Лічу мэтазгодным інфармаваць дэпутатаў аб тым, як пачалі ў гэтым годзе выконвацца на тэрыторыі горада асноўныя прагнозныя паказчыкі.

Як вядома, праграма неадкладных мер па выхаду эканомікі рэспублікі з крызісу дапускае: інфляцыю да 5% (фактычна за студзень бягучага года яе ўзровень склаў 42,5%); падзенне прамысловасці — да 2-3% (фактычна — 5,9%); беспрацоўе — 3% (фактычна — 0,9%); падзенне курса беларускага рубля ў адносінах да долара ЗША — 5% (фактычна — 10,1%).

Як жа гарадская прамысловасць будзе працаваць у лютым? Прагназіруецца, што ў параўнанні з лютым 1994 года мы дацягнем да задання Праграмы. Інакш кажучы, спад прамысловасці не будзе большы за 2%, а да снежня гэтага года мяркуецца рост на 2-3%.

Трэба адзначыць, што гэтыя паказчыкі сведчаць аб большым узроўні вытворчасці, чым гэта мае месца па рэспубліцы ў цэлым.

Калі за 1994 год па краіне прамысловасць зменшыла аб'ём вытворчасці ў параўнанні з 1990 годам на 35 пунктаў, то па гораду Мінску — на 18 пунктаў, інакш кажучы, амаль у 2 разы падзенне па гораду было менш.

Але нас сёння непакоіць тое, што мясцовыя кіруючыя кадры ўсіх узроўняў са сваімі працоўнымі калектывамі маюць горшыя паказчыкі. Сёння гэта такія раёны як Партызанскі, Заводскі, Цэнтральны, Маскоўскі, Ленінскі, Першамайскі. Асабліва нас турбуе лёс такіх добрых у свой час прадпрыемстваў як аб'яднанні: «Гарызонт», «Беларускія шпалеры», «Фарфоравы завод» (Цэнтральны раён), аб'яднанне «Сукно», заводы: «Белпласт», «Будматэрыялы» (Фрунзенскі раён), аўтамабільны, «Мінскгамсельмаш», гармалзавод (Заводскі раён), трактарны, маторны; інструментальны завод (Партызанскі раён), завод «Крыон», аб'яднанне «Сігма», ліцейны механічны завод (Кастрычніцкі раён), аб'яднанне ім.Я.Коласа, выдавецтва «Беларускі Дом друку» (Савецкі раён), абутковае аб'яднанне «Прамень», аб'яднанне «Медпрэпараты», скургалантарэйная фабрыка імя Куйбышава, заводы «Сантэхдэталь» і «Кінадэталь» (Маскоўскі раён).

Трэба адзначыць, што ў студзені сутачная прадукцыйнасць у параўнанні са студзенем і снежнем 1994 года была на 5-6% менш.

І горш за ўсё, што на прадпрыемствах знаходзіцца сёння гатовай, але нерэалізаванай прадукцыі амаль на 50-60%, а на іншых прадпрыемствах і больш за 100% да месячнага аб'ёму вытворчасці.

Таму няма грошай, каб купіць сыравіну і камплектуючыя вырабы, тым больш павысіць заробак.

Адсюль выцякае задача амаль для ўсіх удзельнікаў сесіі: зрабіць усё магчымае, каб такога становішча не было на кожным прадпрыемстве.

Трэба ў хуткім часе ўсім гаспадарчым кіраўнікам, службам гарвыканкама, дэпутатам і, у першую чаргу, працуючым ў калектывах зрабіць для сябе нормай дзейнасці дынамічнае развіццё прадпрыемства. На мой погляд, высокі заробак і высокая эфектыўнасць працы — вось галоўнае патрабаванне часу для ўсіх. Але і добрыя прыклады ў горадзе ёсць. Гэта аб'яднанні «Інтэграл», «БелВАР», «Мінскмэбля», «Прамсувязь», «Амкадор», «Мілавіца», заводы імя Гастэлы, «Белспецкамунмаш». Гэта адносіцца не толькі да прамыслоўцаў, але і да будаўнікоў, гандляроў, эканамічных, фінансавых, банкаўскіх і другіх органаў.

Не можа быць такога становішча, калі ўсе працуюць дрэнна: Вярхоўны Савет, прэзідэнт, Кабінет міністраў, мясцовыя ўлады, кіраўнікі прадпрыемстваў, але, напрыклад, банкі (па адзнацы галоўнага банкіра рэспублікі) ужо ўсё зрабілі па выкананню антыкрызіснай праграмы. І гаворка ідзе ў той час, калі цэны і інфляцыя растуць, нацыянальныя грошы становяцца ўсё танней у параўнанні з іншаземнай валютай, усё бяднейшымі становяцца ўкладчыкі банкаў і гэтак далей.

Толькі сумесныя намаганні ўсіх дазволяць стабілізаваць сацыяльна-эканамічнае жыццё, прывесці грамадзян краіны да згоды, стабільнасці і дабрабыту. Гэта, на мой погляд, сёння можна зрабіць пры пашырэнні інавацыйнай дзейнасці і яе падтрымцы, будаўніцтве эфектыўнай падатковай сістэмы, якая патрабуе значнага скарачэння расходаў на сілавыя структуры і ВПК, адмове ад чэкавай прыватызацыі і забароне сусветнага гандлю ваеннай прадукцыяй.

Гарадскому Савету, выканкаму і яго службам трэба ўсё зрабіць для таго, каб у гарадскі бюджэт ішло не менш 50% паступаючых з тэрыторыі горада падаткаў. Сёння гэта доля састаўляе менш 30%.

Усе паказчыкі і напрамкі дзейнасці абмяркоўваліся як ніколі станоўча ўсімі камісіямі гарадскога Савета дэпутатаў, службамі гарвыканкама і самім гарвыканкамам. Практычна ўсе прапановы ўлічаны і разгледжаны.

Усе новыя заўвагі мы абавязкова абагульнім і пакладзём у праграму сваёй практычнай дзейнасці ў бягучым годзе.

